


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 5 (42) ВЕРАСЕНЬ 2005 г.


# БРАСЛАЎ НА СТАРЫХ ФОТАЗДЫМКАХ

**Кастусь Шыдлоўскі**

Фотаграфіі надзвычай узбагачаюць нашы веды па гісторыі Браслава. Ужо назапашаны велізарны аб'ём матэрыялу, які яшчэ трэба належным чынам даследаваць. Акрамя таго, можна чакаць усё новых і новых знаходак.

Да гэтай пары не выяўлена фотаздымкаў Браслава XIX ст. Даволі абмежаваная колькасць картак дарэвалюцыйных, пачатку XX ст. Паходзяць яны, у асноўным, з архіва пекара Станіслава Нарбута. Сярод іх фотаздымкі, звязаныя з дзейнасцю лячэбніцы, пажарнай дружыны, тэатральнымі пастаноўкамі. Свайго фатографа ў мястэчку не было. Ёсць звесткі пра фатографаў з Друі, Відзаў (атэлье Я.Сурыцы). пры неабходнасці таксама запрашалі фатографаў з суседняга Дзвінска. Вядомы некалькі фотаздымкаў перыяду першай сусветнай вайны. Большая частка іх паходзяць са збораў браслаўскага краязнаўцы Віталія Брылевіча, які актыўна кантактаваў з удзельнікамі рэвалюцыйных падзей у Браславе. З Расійскага ваенна-гістарычнага архіва атрымана копія фотаздымка вайсковага пахавання ў Браславе 1916-1917 гг.

Велізарную колькасць разнастайных фотаздымкаў дае перыяд 20-3-х гадоў XX ст., калі Браслаўшчына была ў складзе Польшчы. Аматарскімі фатаграфіямі ў гэты час ужо маглі займацца служачыя, настаўнікі, медыкі, якія былі фінансава нядрэнна забяспечаны. У Браславе пачалі працаваць некалькі прафесійных фатографаў. Яны ўтрымлівалі студыі, выязджалі на розныя мерапрыемствы. Найбольш вядомы браслаўскі фатограф – Адольф Бейнаровіч. Яму належыць асобае месца ў гісторыі Браслава, бо фатографа цікавілі не толькі здымкі людзей, ці адметных падзей, яго вельмі цікавіў сам Браслаў. Мяркуючы па фотаздымках, А.Бейнаровіч вельмі любіў Браслаў, адчуваў яго асаблівасці. Фотазамалёўкі Браслава і блізкага наваколля ён афармляў у выглядзе паштовак з надпісамі. У 30-я гады XX ст. каля 20 сюжэтаў А.Бейнаровіча былі надрукаваны на паштоўках друкарскім спосабам у Вільні. Імя гэтага фатографа з удзячнасцю будуць згадваць усе даследчыкі мінулага Браслава. Вельмі шкада, што ў музеі пакуль няма ні біяграфічных звестак пра майстра, ні яго партрэта.

Браслаў у 20-я гады трапіў у аб'ектывы двух слынных віленскіх фатографаў. Адзін з іх – Ян Булгак, бадай, самы слынны польскі і беларускі фатограф, пачынальнік мастацкага фотаздымка. Ён некалькі разоў пабываў у Браславе. Фотаздымкі Булгака вядомы толькі па публікацыях у газетах, часо-



**Калонія ўраднікаў. Прыгожы комплекс дамоў для павятовай адміністрацыі быў узведзены ў 1920-я гады архітэктарам з Вільні Ю.Клосам. У тыя часы гэта была заходняя ўскраіна мястэчка.** ***Фота з архіва Дж.Конрада***

пісах, на паштоўках, бо архіў мастака згарэў у Вільні пад час вайны. Браслаўскія сюжэты ўражваюць маляўнічасцю. Шэраг фотаздымкаў з Браслаўскімі забудовамі выканаў Юліуш Клос – добры фатограф, але найперш – архітэктар. Для Браслава ён спраектаваў забудову адміністрацыйнага цэнтра. Фотаздымкі Ю.Клоса не настолькі мастацкія, як у Булгака, яны дакументальна фіксуюць куточкі мястэчка.

Выдатнай якасці фотаздымкі рабіў Адам Вісліцкі, вядомы аматар водных падарожжаў з Варшавы, аўтар кнігі з апісаннем вандроўкі па азёрах і рэках Браслаўшчыны. У Варшаве ён трымаў вялізную колькасць негатываў па Браслаўшчыне, сярод якіх былі і браслаўскія, а па замове выконваў адбіткі. Лёс архіва А.Вісліцкага невядомы.



**Прэзідэнцкая кавалькада каля будынка староства (сучасны райвыканкам). Прэзідэнт Польшчы, выдатны дзяржаўны дзеяч І.Масьціцкі наведаў Браслаў летам 1930 г., пабываў на шэрагу абектаў, на гарадзішчы, прыпыніўся ў Браславе на начлег. Такую колькасць аўтамабіляў мястэчка ўбачыла ўпершыню. На фотаздымку іх можна налічыць 11.**
***Фота з архіва Дж.Конрада***




**Сям'я Антона Балды перад будынкам гатэля. У міжваенны перыяд у Браславе дзейнічала некалькі прыватных гатэльчыкаў. Належалі яны яўрэям. Антон Балда на шыльдзе свайго гатэля напісаў: "Хрысціянскі гатэль Антона Балды".**
***Фота з архіва Дж.Конрада***

Выконвалі фотаздымкі Браслава турысты, якіх багата наведвала рэгіён з розных куткоў Польшчы, аўтары рэпартажаў пра Браслаўшчыну ў турысцкай і іншай перыёдыцы.

Нават больш-менш значная падзея ў мястэчку ўжо не адбывалася без фотафіксацыі. Такім чынам колькасць фотаздымкаў даваеннага Браслава павінна вымярацца тысячамі. Аднак музейная калекцыя даваенных здымкаў, асабліва напачатку, фарміравалася даволі марудна. Лічылі, што большая частка фотаматэрыялаў загінула падчас вайны. Пазней зразумелі, што яна не загінула, а вывезена. З 1939 па 1950 гады Браслаўшчыну пакінулі тысячы сем'яў, якія выязджалі ў Польшчу, – у першую чаргу самыя адукаваныя, самыя заможныя. Трэба



**Возера Дрывяты. Узровень вады яшчэ высокі. На здымку – участак берага, дзе зараз знаходзіцца гімназія і аўтастанцыя. На вяршыні пагорка пазней быў узведзены дом з аднолькавымі фасадамі.**
***Фота з архіва Дж.Конрада***





**Прыстань Лігі Марской і Каланіяльнай. Адсюль стартавалі парусныя рэгаты. Тут праводзіліся танцы, меліся аглядальныя вежы. Да прыстані вялі спецыяльныя масткі. Абвестка перад ўваходам папярэджвала: "Уваход без абанементу 20 грошай. Прыводзіць сабак забаронена".** ***Фота з архіва Дж.Конрада***




**Планер "Варона". Да вайны ў Браславе дзейнічаў планерны клуб. Стартавалі планеры з вяршыні Лысай гары. Вяршыня знаходзіцца непадалёку ад новага бальнічнага комплекса і зараз зарасла сасновым лесам.** ***Фота з архіва Дж.Конрада***

згадаць савецкія рэпрэсіі супраць польскай інтэлегенцыі, згадаць таксама трагедыю мясцовага яўрэйства і выезд ацалелых у Ізраіль і на Захад. Такім чынам, большая частка фотаздымкаў разам з гаспадарамі пакінула Браслаў. Шукаць іх цяпер трэба па ўсім свеце.

Мэту сабраць гэты раскіданы па сотнях сямейных архіваў каштоўнейшы матэрыял паставіў перад сабой Джон Конрад (Ян Кляновіч). Жыве ён у ЗША, у Фларыдзе, а паходзіць з Браслаўскіх аколіц, у Браславе правёў юнацкія гады. Джон Конрад – адзін з самых актыўных дзеячаў арганізацыі браслаўцаў замежжа. З розных краін свету атрымліваў ён фотаматэрыялы, капіраваў яго, а арыгіналы вяртаў гаспадарам. Больш чым за дзесяць гадоў сабралася за паўтысячы фотаздымкаў. Невялікая іх частка была афармлена ў фотаальбом, асобнік якога атрымаў і Браслаўскі музей. Увесь свой збор Джон Конрад перадаў у Гданьскі этнаграфічны музей, дзе дырэктарам Вікторыя Бляхарская, карані якой з Браслаўшчыны. Частка матэрыялаў была змешчана на выставе "Браслаўшчына", што дэманстравалася ў Гданьску і Варшаве. Пра Гданьскую выставу "Павет" падрабязна інфармаваў. Вікторыі Бляхарскай удалося адшукаць яшчэ больш фотаматэрыялаў. Мяркуецца, што з часам у этнаграфічным музеі паўстане архіў выхадцаў з Браслаўшчыны. Частку фотаматэрыялаў, назапашаных у Гданьску, Вікторыя Бляхарская ў копіях перадала Браслаўскаму музею. Такім чынам, і ў Браславе сфарміравалася значная калекцыя фотаздымкаў, прысвечаных гораду. Музей працягвае мэтанакіраваны пошук фотаматэрыялаў аб Браславе. Вялікую дапамогу ў гэтым, акрамя Д.Конрада і В.Бляхарскай, аказалі многія архівы, даследчыкі, прыватныя асобы. Сярод апошніх хацелася б адзначыць Яніну Гелерт (унучку С.Нарбута), Станіслава Александровіча, Марыю Ганушак, Часлава Далецкага, Віктара і Ганну Выслоўхаў, Яцака Якубчыка, Анджэя Бучака, Ежы Жураўскага.

Сотні сюжэтаў музейнай фотакалекцыі дазваляюць меркаваць аб забудове розных куточкаў Браслава, асобных будынках, гістарычных помніках і мясцінах, важнейшых падзеях у жыцці горада, рэлігійным, школьным, спартыўным, грамадскім жыцці, развіцці турызма, дзейнасці гандлёвых устаноў, прамысловых прадпрыемстваў, органаў кіравання.

Яны будуць выкарыстоўвацца на выставах, у розных выдавецкіх праектах. Можа, надыдзе час і спецыяльнаму выданню "Браслаў на старых фотаздымках".



**Будынак староства – павятовай адміністрацыі. Здымак зроблены амаль адразу пасля ўсвядзення (1929 г.).** ***Здымак дасланы Я.Якубчыкам (Польшча)***



**Браслаўскія сувязісты. Здымак зроблены ў першыя месяцы савецкай улады. На будынку шыльда, на ёй можна разабраць "БССР ... ".**
***З архіва Ч.Далецкага (Польшча)***



**Курс вогнетрывалага будаўніцтва ў Браславе. Прыблізна 1936 г. Будынак за групай удзельнікаў курсу – сучасная школа мастацтваў, у тыя часы – Браслаўскі павятовы соймік.** ***З архіва А.Бучака (Польшча)***

# Фотаздымкі Фядоса Бабенка

*Калі Браслаўскі музей толькі пачаў ствараца (у пачатку 80-х гадоў), з райкама партыі перадалі ліст, дасланы з Украіны. Канверта на жаль не збераглі, але сказалі, што ліст дасланы з Палтаўшчыны. Напісаў ліст ветэран І-й сусветнай Фядос Бабенка, якому давялося пабываць на Браслаўшчыне. Да ліста дакладаліся два фотаздымкі выдатнай якасці – Ф.Бабенка ў Браславе і ён жа перад маёнткам у Опсе. На опсаўскім здымку на рукаве Бабенкі – павязка з чырвоным крыжам. Відаць ён быў салдатам медыцынскай часці. Згадаем што ў Опсе, у палацы, размяшчаўся шпіталь. Ф.Бабенка разумеў каштоўнасць здымкаў. На вялікі жаль, з прычыны адсутнасці адраса не ўдалося звязацца з ветэранам, падзякаваць за фотаздымкі, папрасіць напісаць падрбязныя ўспаміны, падзяліцца іншымі памяткамі І-й сусветнай. Але і за гэтыя два каштоўныя здымкі гісторыкі Браслаўшчыны вельмі яму ўдзячны. Ніжэй прыводзім тэкст ліста Ф.Бабенка, напісанага на ўкраінскай мове.*



*Шановній секретар !*

*Це Вас тривожить і відрывае від прамої Вашої работи із України один громадянін. Во время першої світової войни я побував в Ваших містах та селах. В деяких частково, а в деяких і довгенько приходилось бути. Двінск, Смоленськ, Вітебск, Полоцк, ст.Бальбіново, Друя, а також села Баровка, Опса, Браслав і дер.Купчелі.*

*В дер. Купчелі я зустрів февральську революцію і усунення Ніколая II от царування, а в Баровці зустрів Бретський мир, у Бресті теж побував, і декрет Леніна про роспуск армії по домівках, бо Троцький па Бреському мирі не те виконав що Ленин і партія ожидали.*

*Висилаю Вам два фото, одне фото Опсовський будинок фольварку 1915 года, друге фото частина м.Браслава теж 1915 года. Коли у Вас існуе історічний гурток в районі, то це і будуть спогади про перцу світову війну.*

*Прошу пробачення що відорвав Вас від прамої роботи.*

*З шаною до Вас Бабенко.*

# ЗНАХОДКІ МІКОЛЫ ПАЎЛОВІЧА

Гісторык, калекцыянер з Даўгаўпілса Мікола Паўловіч, актыўны сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства шмат робіць для выяўлення браслаўскіх слядоў у горадзе, дзе ён жыве з сям'ёй. Даўгаўпілс размешчаны ўсяго толькі 40 кіламетраў ад Браслава мае значную праслойку жыхароў, карані якіх звязаны з Браслаўшчынай і суседнімі рэгіёнамі Беларусі. Аднаго разу М.Паўловіч натыкнуўся на фотаздымкі першай сусветнай вайны, звязаныя з Відзамі і наваколлем. У Даўгаўпілс іх прывёз з сабой Іван Адамавіч Гайлеўскі. На адным здымку група сялян в.Тракішкі, якіх немцы прыцягнулі да земляных прац. Пераважаюць жанчыны з рыдлёўкамі, на заднім плане ў цэнтры – І.Гайлеўскі, сярод сялянак – сёстры Пахолкі, Шакніс. Вылучаецца постаць мужчыны ў мундзіры. Гэта немец, кіраўнік прац. Датуецца здымак восенню 1915 г., калі з дапамогай мясцовага насельніцтва немцы падрыхтавалі ў наваколлі Відзаў цэлую сістэму ўмацаваных пазіцый. На другім здымку – вуліца Відзаў сілуэтам касцёла на заднім плане. На адвароце подпіс: "Відзы. Зіма 1915/16". І вось зусім свежая знаходка – друкаваная паштоўка з відам Відзаў. Сюжэт паштоўкі амаль супадае з сюжэтам фотаздымка – тая ж вуліца, гмах храма на заднім плане. Друкаваны нямецкі тэкст у верхняй частцы перакладаецца наступным чынам: "Горад Відзы, Расія, разбураны артылерыйскім абстрэламі расіян". У ніжняй частцы ад рукі подпіс Andenken! 1916-1917" ("Памятка. 1916-1917"). Паштоўка на адвароце мае тэкст, які з прычыны невыразнага почырку вельмі дрэнна чытаецца. Паштоўка была адпраўлена з Відзаў у Берлін 10 снежня 1916 г.

Мікола Паўловіч піша пра абставіны выяўлення паштоўкі: *"Увосень гэтага года давялося пэўны час працаваць у Рызе. Выходным днём наведаў сход калекцыянераў, які два разы на месяц адбываецца ў будынку 6-й школы. Даўно там не быў і адразу заўважыў, што цікавасць да даўніны ўзрасла – сход гудзеў як вулей. Узраслі і кошты, у сярэднім у 2-3 разы ад часу майго апошняга візіту. Падаражэлі да 1 лата і ўваходныя білеты. Напрыканцы свайго наведвання я заўважыў калекцыянераў, якія разглядалі альбом з паштоўкамі. Яны былі на беларускую тэму і надрукаваны ў Германіі ў часы І-й сусветнай вайны. Там былі віды Навагрудка, Наваельні, Паставаў, Камаяў, Гародні, іншых мясцін. Раптам бачу – Відзы. Адпраўлена з Браслаўшчыны ў Берлін. Уладар паштовак – Чэслаў з літоўскага горада Шаўляя. Ён збірае паштоўкі з відамі гэтага горада, а астатнія абменьвае, за грошы паштоўкі не прадае. З арыгіналам гаспадар не развітаўся. Заледзьве ўпрасіў яго даслаць ксеракс відзскай паштоўкі. За гэта яму выслаў шаўляйскія матэрыялы. Альбом з паштоўкамі Чэслаў прывёз з Германіі. Там сярод калекцыянераў трапляецца шмат матэрыялаў беларускай тэматыкі, толькі просяць за іх ад 5 еўра і вышэй. Чэслаў меў у руках яшчэ адну паштоўку з Відзаў, аднак раней яе абмяняў. Побач з Чэславам займаў месца калекцыянер з Мінска.*



**Сяляне в.Тракішкі, удзельнікі прац па ўзвядзенню земляных умацаванняў**



**Відзы. Зіма 1915-16 гг. Фотаздымак**




**Відзы. 1916 г. Паштоўка**

*Ён пахваліўся, што мае дарэвалюцыйную паштоўку Браслава, але паводзіў сябе не вельмі ветліва і большага ад яго дабіцца не ўдалося."*

Мікола Паўловіч перадаў ксеракопію паштоўку ў Браслаўскі музей. Канешне шкада, што тут не знайшоў прытулак арыгінал, але важна, што дзякуючы Міколе паштоўка ўведзена ў зварот як каштоўны гістарычны дакумент.

---

У музеі зберагаецца дакумент, які адносіцца да першых месяцаў вайны на Браслаўшчыне. Гэта абвестка да грамадзянскага насельніцтва ад імя вайсковых уладаў аб забеспячэнні фуражом часцей расійскай арміі. У першыя месяцы вайны ў рэгіёне баявыя дзеянні вяло шмат кавалерыйскіх часцей. Пакуль не наладзіўся падвоз фуражу для коней, асноўнай крыніцай яго папаўнення былі запасы сялянскіх гаспадарак. Дакумент знойдзены ў в.Пузевічы, што паміж Браславам і Опсай.

Объявление

Сим довожу до сведения, что у каждого жителя имеющаго на лицо скот должно быть оставлено в обеспечение его продовольствия до мая месяца, сено или кормовая солома по одному пуду на лошадь или корову и по 15 фунтов на голову мелкаго скота, все же остальное количество фуража владелец в случае требования войсковыми частями обязан продавать по ценам не выше справочной.
Для определения количества фуража в каждом спорном случае, должны быть привлекаемы местныя сельския и полицейские власти.

Начальник конной Группы
Генерал-От-Кавалерии Орановский
Вр.И.д Коменданта Ротмистр Кротков

Пячатка Опсаўскага валаснога праўлення

Скарбнік браслаўскі А. Чапінскі падпісаў унію "*як пасол усіх абывацеляў браслаўскіх*". 28 жніўня 1655 года пад Браславам сабралася мясцовая шляхта, а таксама шляхта тэрыторый занятых маскоўскімі войскамі. Прысутныя падпісалі акт падданства шведскаму каралю. Пад актам паставілі подпісы 116 прадстаўнікоў Браслаўскага павета, 38 прадстаўнікоў Полаччыны і Ашмянскага павета. Пра гэту падзею тэрмінова паведамілі губернатару Лівоніі Магнусу де ля Гардзі. Некалькімі тыднямі раней шведскі аддзел у складзе 116 вершнікаў і пяхоты праз памежнае мястэчка Плюсы ўвайшоў у Браслаўскі павет. Шведы занялі Браслаў, бліжэйшыя замкі і мястэчкі. Асноўны гарнізон размясціўся ў Друі, у капітальных мурах бернардзінскага кляштара.

Клопатам за лёс Рэчы Паспалітай, якая ў другой палове XVIII ст. знаходзілася ў стане глыбокага крызіса, прасякнута інструкцыя паслам ад Браслаўшчыны на знакаміты вялікі ці Чатырохгадовы сойм (1788-1792). Сойм прадпрыняў шэраг рэформ, накіраваных на выйсце з крызіснага стану, ухваліў прагрэсіўную канстытуцыю 3-га мая. Браслаўскі павет прадстаўлялі Станіслаў Мірскі пісар, ВКЛ і Томаш Ваўжэцкі. Яны атрымалі даволі шырокія паўнамоцтвы па падтрымцы рэфармавання краіны. Асаблівай увагі заслугоўвае Т. Ваўжэцкі (1753-1816), выдатны дзяржаўны і грамадскі дзеяч, ураджэнец Браслаўшчыны. Ён вельмі актыўна працаваў на Сойме, з'яўляўся прыхільнікам новай канстытуцыі, выступаў за паляпшэнне становішча сялян, мяшчан, быў адным з аўтарам рэформы мясцовага адміністрацыйнага кіравання. Браслаўскі пасол стаў адной з папулярных постацей у Варшаве. Пазней ён будзе кіраваць абаронай сталіцы Рэчы Паспалітай у якасці кіраўніка ўзброеннымі сіламі паўстання 1794 г.

Адной з прычынаў аслаблення Рэчы Паспалітай было перарастанне шляхецкай дэмакратыі ў анархію. Шляхта ўсё больш падпадала пад уплыў магнацкіх груповак, якія варагавалі паміж сабой за ўладу ў краіне. Часта даходзіла да ўзброенных сутычак. Уцягнутай у гэтыя працэсы была і шляхта Браслаўшчыны. Напрыканцы XVII ст. мясцовая шляхта брала ўдзел у процістаянні магнацкіх груповак Сапегаў і Агінскіх з аднаго боку і Вішнявецкіх з другога. Справа дайшла да крывавай бітвы пад Алькенікамі, у якой загінула некалькі дзесяткаў браслаўскіх шляхцічаў. У XVIII ст. мясцовая шляхта аказалася ўцягнутай у барацьбу Радзівілаў з Чартарыйскімі. На гэтай глебе варагавалі два мясцовых уплывовых рода: Цеханавецкіх і Струтынскіх. Замірыцца яны паспрабавалі праз шлюб Яна Цеханавецкага, старосты апескага і Ядвігі Струтынскай. Шлюб аказаўся няўдалым. Напачатку малады муж быў незадаволены тым, што атрымаў меншы пасаг ад абяцанага, потым паводзінамі сваёй жонкі. Цеханавецкі ўзяў развод. Гэта распаліла варожасць паміж Струтынскімі і Цеханавецкімі. А ў 1756г. падчас пасольскага сойміка ў Браславе адбылася трагедыя. На сойміку Струтынскія паспрабавалі правесці свайго прыхільніка, дзеля гэтага скарыстаўшыся рознымі прыёмамі, нават прывялі з сабой у Браслаў 60 пахолкаў (узброеных слуг). Поспеху аднак дабіліся іх супернікі Цеханавецкія. Струтынскім удалося сарваць соймік. Калі Цеханавецкія ішлі па нейкіх сваіх справах каля стаянкі Струтынскіх іх абстралялі. Адзін з Цеханавецкіх быў забіты, другі паранены. Струтынскім давялося ўцякаць з Браслава, а Цеханавецкія шукалі праўду у гэтай справе па сталіцах. Струтынскіх падтрымалі ўплывовыя Чартарыйскія. Ядвіга Струтынская адыграла ў гэтай нашумелай у краіне гісторыі не апошнюю ролю. Прыгажуня з Браслаўшчыны змагла зачараваць караля і вялікага князя Станіслава Аўгуста. Калі новая каханка надакучыла манаху, той уладкаваў яе шлюб з італьянскім авантурыстам Мікалаем Мануцы. За паслугу М. Мануцы атрымаў ад Станіслава Аўгуста Апескае (Опсаўскае) староства. Паступова італьянец пашырыў уладанні на Браслаўшчыне, зрабіў сваёй рэзідэнцыяй маёнтак пад Браславам, адкуплены ў Гільзенаў і назваў яго на італьянскі манер - Бяльмонты (прыгожая гара). Праславіўся жорсткім, сквапным характарам, здолеў перасварыцца з усімі суседзямі, ад якіх атрымаў мянушку "браслаўскі д'ябал". А вось сын Станіслаў меў характар супрацьлеглы - праславіўся перадусім дабрачыннай дзейнасцю. Напрыклад, выдаткаваў 28 тысяч рублёў у пач. XIX ст. на адукацыю. Сапраўды, не бацькаў учынак. Хаця... Традыцыя таго часу сцвярджала, што сапраўдным бацькам Станіслава быў кароль, а апошні кароль праслыў шчодрым мецэнатам. Станіслаў Мануцы быў апошнім браслаўскім старостам і маршалкам мясцовай шляхты ў 1814-1823 гг. Гісторыя, пераказаная ў самым сціслым выглядзе - чым не прывабны сюжэт для літэратара? Польскі пісьменнік Д. Антоні, датыкнуўся яе ў кароткім творы "Опсаўская старосціха". Беларускім аўтарам гістарычных раманаў яшчэ належыць сказаць сваё слова.

Крызіс дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай паглыбляўся ўмяшальніцтвам, у тым ліку і ваенным, суседніх дзяржаў. Апошні вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст для ажыццяўлення сваёй палітыкі пайшоў на хаўрус з Расіяй. Супраць гэтага выступіла частка шляхты і магнатаў - паўстала Барская канфедэрацыя (1768). Шляхта Браслаўскага павета падтрымала канфедэрацыю, а на сойміку 1-га ліпеня 1771 г. заклікала да больш рашучай барацьбы за "веру, правы і вольнасці". Была сфармавана асобная вайсковая частка "Браслаўская дывізія". Канфедэрацыя неўзабаве пацярпела паражэнне, што садзейнічала першаму падзелу Рэчы Паспалітай паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй.

У 1792 г. Расія зноў скарысталася ўнутранымі супярэчлівасцямі Рэчы Паспалітай і падрыхтавала другі падзел краіны. Гэтаму папярэднічаў увод на тэрыторыю Рэчы Паспалітай значных вайсковых сілаў. Распараджэння імператрыцы Кацярыны II чакаў дыслацыраваны ў Полацку 64 тысячны экспедыцыйны корпус генерал аншэфа М. Крачэтнікава. Выгляд законнасці інтэрвенцыі павінны былі надаць звароты да імператрыцы мясцовай шляхты. Сходы шляхты рыхтаваліся пры ўдзеле расійскіх ваенных і іх памагатых. 10 мая ў Браславе шляхта падпісала акт канфедэрацыі і М. Крачэтнікаў паспяшыў паведаміць у Санкт-Пецярбург: "*поспешаю поднести у сего Вашему Императорскому Величеству копию подписанного акта конфедерации составленном в повете Браславском...*" Генерал Ш. Касакоўскі, які ўдзельнічаў у арганізацыі схода шляхты ў Браславе дакладываў, што "*...повет Браславский столько оказывает горячности, усердия и привязанности к Россі, что ныне же готовы сесть на лошадей и начать дело*". Браслаўская шляхта сапраўды праявіла "*горячность и усердие*", але толькі праз два гады, калі пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць царскай улады. Тады ж Ш.Касакоўскі быў прылюдна павешаны на ліхтары ў Вільні. 11 мая 1792 г. расійскія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага. Браслаўшчына была занята часцямі пад камандаваннем князя Далгарукава. 17 мая ў Браславе адбыліся выбары кіраўніцтва канфедэрацыі. Маршалкам абралі Плятэра, у склад спецыяльнай рады ўвайшлі шэсць чалавек. Частку шляхты прыйшлося дастаўляць у Браслаў пад прымусам з дапамогай салдат. Можа гэта меў на ўвазе Плятэр у сваім лісце да М. Крачэтніка, паведамляючы, што князь Далгарукі "*немало спопешествовал успеху наших дел*". Дарэчы, Даўгарукі ў лісце да М. Крачэтнікава, напісаным у наваколлі Браслава, адзначаў, што калі ў павеце не пакінуць чалавек 500 салдат, то ўтрымаць яго немагчыма, што падпісанты канфедэрацыі хутка адмовяцца ад сваіх подпісаў.

Увесну 1793 г. з дазволу расійскіх улад былі праведзены павятовыя соймікі для абрання дэпутатаў на Гродзенскі вальны сойм. 27 мая такі соймік прайшоў у Браславе, ён стаў апошнім сходам Браслаўскай шляхты. Соймік адбыўся на Замкавай гары. Дэлегатамі на сойм абралі Кадлубіцкага і Рудніцкага (апошні быў вядомы як расійскі саглядатай).

Гродзенскі надзвычайны вальны сойм пад прыцэлам расійскіх гармат зрабіў тое, што ад яго патрабавалі - ухваліў другі падзел Рэчы Паспалітай. Лінія падзелу разразала тэрыторыю Браслаўскага павета на дзве часткі. Усходняя, з мястэчкамі Друя, Іказнь, Мёры, Замошша, Казяны адышла да Расіі. Рашэннем Гродзенскага сойма з рэшткаў Браслаўскага, частак Вількамірскага і Свянцянскага паветаў створана Браслаўскае ваяводства. Першым і апошнім ваяводам браслаўскім 17 сакавіка 1794г. быў прызначаны М. Касакоўскі. Браслаў наўрацце дачакаўся свайго ваяводу - ужо пачыналася паўстанне Т. Касцюшкі, пасля падаўлення якога краіна перастала існаваць.

Паўстанне падтрымала значная частка шляхты Браслаўскага павета. Падкаморы Багуслаў Мірскі, як прадстаўнік паўстанцкага ўраду ВКЛ, заклікаў шляхту сабрацца ў Браславе для афармлення далучэння да паўстання. На заклік адгукнулася некалькі сотен чалавек. 11 мая чакалася надпісанне акта канфедэрацыі, аднак уначы на Браслаў раптоўна напаў расійскі вайсковы аддзел секунд-маёра Стафапула. У вайсковым рапарце адзначалася, што Стапафула выпадкова даведаўся аб зборы паўстанцаў у Браславе і "*решился тем воспользоваться и рассыпать собравшихся в Браславе для составления конфедерации, которых было там до трехсот человек, и получив сведение, что отводные караулы при самом разсвете мятежники сводят, приближился он к Браславлю ночью, нечаянно напал на возмутителей и, положа из них на месте до ста человек, прочих разсыпал…*" Падчас сутычкі пачаўся пажар, загарэліся дамы месцічаў, канцылярыя, касцёл, іншыя гарадскія будынкі. Расіяне адступілі з Браслава, захапіўшы 13 палонных, сярод якіх браслаўскі войт Вінцэнт Александровіч. Пажар знішчыў большую частку забудовы. Сталіца павета была знішчана.

У 1794 г. Браслаўскі павет увайшоў у склад Расійскай імперыі, але адміністрацыйным цэнтрам зрабілі Відзы. У 1836г. пасля пераносу цэнтра павета з Відзаў у Езяросы (пазней Новааляксандраўск) знікла і назва Браслаўскага павета. Толькі ў наступным стагоддзі з 1919г. Браслаў зноў займеў статус значнага рэгіянальнага цэнтра (цэнтр павета ў перыяд Заходняй Беларусі, цэнтр раёна - у перыяд БССР і да сённяшняга дня), але гэты статус ні па палітычнаму, ні па адміністрацыйнаму значэнню ўжо не адпавядаў статусу павятовай сталіцы XV-XVIIIстст.

# Браслаў у творах Георгія і Наталлі Паплаўскіх

Георгій і Наталля Паплаўскія – вядомыя беларускія мастакі, жыццё і дзейнасць якіх дзесяцігоддзямі цесна звязана з азёрным краем. Іх летняя сяліба каля гарадзішча Маскавічы была месцам адпачынку і напружанай працы. Шырокую вядомасць атрымалі працы мастакоў, створаныя пад натхненнем мясцовых краявідаў. Іх неаднойчы рэпрадуцыравалі ў розных выданнях.

Толькі што ў Мінску пабачыла свет кніга Наталлі і Георгія Паплаўскіх "Браслаўшчына. Дзённік мастакоў. Замалёўкі. Жывапіс. Акварэль. Літаграфія. Афорт." Тэкст для кнігі напісала Наталля Паплаўская. Гэта адлюстраванне яе бачання куточка Беларусі, з якім звязана столькі жыццёвага часу. Выданне багата ілюстравана творамі абодвух мастакоў.

Браславу прысвечана некалькі раздзелаў: "Браслаў і яго наваколле", "Гарадок Браслаў". Тэкст дыхае рамантызмам і настальгіяй па тых часах, калі мастакі ўбачылі невялікае мястэчка, яшчэ слаба закранутае "цывілізацыяй", якая не заўсёды змяняе паселішча да лепшага. У кнізе 7 замалёвак гарадка. У Георгія Паплаўскага – гэта ў асноўным рэалістычныя малюнкі-накіды, у Наталлі – рамантычныя, амаль казачныя абагульненні-мроі. Творы Н.Паплаўскай сугучны з яе тэкстам:

*«Гарадочкі накшталт Браслава ўзнікалі па прынцыпу суладдзя і сумаштабнасці з асяроддзем, і гэты прынцып намі страчаны разам з развіццём тэхналогіі. Даўжэзная цэнтральная вуліца, якая пераважна складаецца з яўрэйскіх мураваных дамкоў-лавачак з аднымі дзвярыма і вакном. Яны туляцца адзін да аднаго, як гнёзды ластавак, і толькі дзе-нідзе яны раздзелены вузкімі праходамі. Вось толькі калі ўваходзіш унутр, знаходзіш ужо сапраўдны жылы дом і будынкі, у якіх праходзіла асноўнае сямейнае жыццё шматдзетных местачковых яўрэяў "мяжы аселасці".*



**Г.Паплаўскі. Браслаў. Панарама**



**Н.Паплаўская. Браслаўская восень**

*Драўляныя дамы-хаты з прысялібным пляцам  гэта ўжо беларусы. У Браславе гэтыя сялібы паступова ператвараюцца ў панадворкі з кветнікамі, дэкаратыўнымі раслінамі, пладовымі дрэвамі. Большасць хат размешчана ўздоўж возера, і таму шмат якія панадворкі выходзяць да вады, да абавязковых масткоў. Побач туліцца лазенька, прыхаваная зараснікамі чароту, хмызняком і раскідзістых дрэў.*

*Каталіцкі касцёл у Браславе  добры прыклад прапарцыянальнай неаготыкі позняга перыяду. Свае бакавыя вежачкі ён раскінуў крыламі, нібы беручы пад апеку старую частку горада. Праваслаўная царкоўка сціпла паўстала на фоне возера і зіхаціць блакітнымі купаламі.*

*Навакольныя дрэвы самастойна дэманструюць перажытыя імі буры і навальніцы, ці сваёй маладдзю – магутнасць і прыгажосць.*

*Асаблівасць Браслава – у рэльефе мясцовасці, на якой размешчаны домікі. Яны нязмушана паўтараюць прыродныя выгіны і мудрагелістыя віхлянні. У суладдзі з пагоркамі, лашчынамі, ірвамі, зберагаючы сосны і буйныя ліпы, бярозы, клёны, утварыўся гарадок, які вылучаюць знешняе непадабенства і ўнутраны характар».*

**Кастусь Шыдлоўскі**

# Замкавая Гара. Якім быць помніку ?

*...Стаіць гара сабе адзінокая, насыпаная калісьці,*
*Стаіць пакрыўджаны вартаўнік сівой даўніны,*
*Стаіць у сумных марах аб часах мінулых,*
*Як згорблены стары, што страціў сваю веліч...*

Гэтыя словы прысвяціў Браслаўскаму гарадзішчу літоўскі паэт М.Шпапштыс-Маргаліс, які пабываў у мястэчку перад першай сусветнай вайной. Не ведаю, чаму паэту Замкавая Гара ў тыя часы падалася пакрыўджанай, але падставы крыўдзіцца на абыякавасць людзей ёсць у Замкавай Гары і цяпер. Гарадзішчу яўна не стае клапатлівай гаспадарскай рукі, якая б наводзіла там парадак пастаянна. Згадаем горы смецця на яе пожнях, п'яныя кампаніі, якія вольна сябе тут адчуваюць, легкавікі, якія топчуць газоны, каровы, на гаспадароў якіх ніхто не можа знайсці ўправы!

Здаецца, цяжка знайсці чалавека, які не разумеў бы вартасць гарадзішча, як каштоўнейшага помніка гісторыі і археалогіі. Тым не менш, лёс Замкавай Гары непакоіць. А як было раней?

Пасля таго, як Замкавая Гара страціла абарончыя функцыі, ролю грамадскага цэнтра, яна больш чым стагоддзе стала звычайным зямельным надзелам, які трапіў у прыватныя рукі. Гаспадар мог рабіць на пляцоўцы гарадзішча што заўгодна, валы па перыметру сталі месцам выбаркі грунту. Пад уздзеяннем атмасферных ападкаў валы і схілы апаўзалі. Сітуацыя змянілася ў часы дзейнасці польскай адміністрацыі. Замкавую Гару выкупіла дзяржава. За дзяржаўныя скродкі была праведзена праца па ўмацаванню схілаў (дзернаванне, пасадка дрэў, будаўніцтва падпорных сценак). За пашкоджанне гарадзішча ўстанаўліваўся штраф. У пачатку 1930 г. Замкавая Гара становіцца паркам, якому надалі імя прэзідэнта І.Масціцкага. У 30-я гады XX ст. ён знаёміўся з гарадзішчам. Пляцоўку гарадзішча добраўпарадкавалі, але без значных зменаў з парушэннем культурнага пласта. У турысцкай літаратуры 30-х гг. Замкавая Гара фігуруе як самы адметны гістарычны помнік Браслава.

У пасляваенныя часы лёс гарадзішча не вельмі цікавіў улады. Аднак у 60-я гады XX стагоддзя ў сувязі са святкаваннем 900-гадовага юбілею Браслава тут разбіваецца парк. На гэты раз змены былі значнымі – будуюцца гарадок атракцыёнаў, павільёны, танцавальная пляцоўка, па ўсёй пляцоўцы высаджваюцца дрэвы. Усё гэта нанесла значную шкоду культурнаму пласту, які зберагае каштоўнейшую інфармацыю па гісторыі Браслава.

Неўзабаве парк прыйшоў у заняпад і доўгі час у 80 – 90-я гады гарадзішча прыводзілася ў адносны парадак.

Цяперашні выгляд гарадзішча не адпавядае статусу Замкавай Гары. З боку ўладаў патрэбна большая ўвага да яе добраўпарадкавання. Аднак вельмі важна адчуваць пачуццё меры. Час ад часу ўзнікалі і ўзнікаюць планы ўзвядзення на валах макета старажытнай крэпасці. Ідэя знешне прывабная, але цалкам не адпавядае еўрапейскім традыцыям аховы спадчыны. Тым больш, што для нават самай прыблізнай рэканструкцыі няма падстаў. Недарэчнай выглядае і ідэя наконт узвядзення на гарадзішчы піраміды, якая б акумулявала ачышчальную энергетыку. Шкада, што такую прапанову агучыла раёнка, супрацоўнікі якой не могуць не ведаць статуса гарадзішча. Яшчэ прыпамінаецца размова са знакамітым Ю.Булькам, ксяндзом з Мосара, які зрабіў каля каталіцкага храма ў гэтай невялікай вёсачцы рукатворны цуд. Сапраўды, Мосар з яго кветнікамі стаў вядомы на ўсю Беларусь. Усім гасцям з Браслава ксёндз Ю.Булька абавязкова згадае пра занядбаны стан Замкавай Гары. Па словах святара, ён мог быператварыць гарадзішча ў самае прыгожае месца на зямлі. Між іншым, перад Мосарам Бульку прызначылі ў Браслаў, і сапраўды, калі б святар даў згоду, невядома, як склаўся б лёс Замкавай Гары. Засталося ўражанне, што ксёндз Булька не зусім разумее ўнікальнасць гарадзішча як гістарычнага помніка. Нават самыя лепшыя намеры могуць нанесці гарадзішчу значныя пашкоджанні.



**На малюнку Дз.Струкава, выкананым у 1864 г. гарадзішча апярэзвае абарончы вал. У пазнейшыя часы ён быў значна пашкоджаны жыхарамі мястэчка**

Той, хто знаёміцца з Браславам, ніяк не абміне Замкавай Гары. І ўражанне аб горадзе ў многім залежыць ад таго, якім паўстане перад госцем гарадзішча. Пакуль адмоўных водгукаў занадта многа, а, значыць, штосьці не так у нашых адносінах да гістарычнай спадчыны, да нашага горада.

**«ПАВЕТ» DISTRICTUS**
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)